Выдавец:
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс»,
пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

Штотыднёвая газета

vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае

Выдаецца са снежня 1994 года

12 (572) 24 сакавіка 2011 года

Кошт свабодны.

Áðàñëà¢ñê³ ðà¸í

# Æàíî÷àå ø÷àñöå– ó äçåöÿõ

■ Чэслаў Якубовіч

**У жыцці кожнага чалавека ёсць некалькі імгненняў, якія запамінаюцца назаўжды як непаўторныя і радасныя.**

Вось і для жыхаркі Браслава Алы Пучынскай сёлетняе свята вясны – 8 сакавіка– стала менавіта такім. Поўнай нечаканасцю для яе, загадчыцы гаспадаркі Каз'янскай школы-сада і адначасова шматдзетнай маці, стала запрашэнне на ўрачысты прыём у беларускую сталіцу. На ім у Палацы Рэспублікі кіраўнік Беларусі ўручыў 6 ордэнаў і медалёў жанчынам, якія ўвасабляюць лепшыя рысы нашых сучасніц-працаўніц і знайшлі сваё шчасце і прызванне ў мацярынстве і выхаванні дзяцей. У той вечар усе чацвёра хлопчыкаў і дзяўчынка мамы Алы не прапускалі выпускі тэленавін асноўных каналаў, каб хоць на імгненне ўбачыць родны твар і парадавацца за сваю маму. Нават нарадзіўшы столькі дзетак, іх мама не замкнулася ў дамашніх сценах. Яна паспявае сачыць за домам і за сабой, вучыцца завочна, каб развівацца ў інтэлектуальным і прафесійным плане. Вялікай радасцю для іх сям'і стаў пераезд летась з вёскі ў добраўпарадкаваную трохпакаёвую кватэру ў райцэнтры. Прыклад сям'і Пучынскіх паказвае, як трэба жыць, бо многія не рашаюцца заводзіць другога дзіцяці нават маючы добрую зарплату і кватэру.

Ïàñòà¢ñê³ ðà¸í

# Ó ïàñ¸ëêà – ñâàÿ ãåðàëüäûêà

■ Кастусь Александровіч

**Пасля доўгага перапынку сёлетняе свята провадаў зімы – Масленіца– для жыхароў гарпасёлка Лынтупы, што ў Пастаўскім раёне, стала асаблівa масавым і радасным.**

Напярэдадні стала вядома, што прэзідэнцкім указам былі зацверджаны геральдычныя сімвалы аднаго са старэйшых мястэчак краю ля літоўскай граніцы. Перад гэтым з некалькіх варыянтаў самі лынтупчане спынілі свой выбар на вежы-лядоўні з мясцовага парка-сядзібы графа Бішэўскага.

Гэты будынак з выявай лядоўні арыгінальнай архітэктуры на блакітным фоне і стаў эталонам афіцыйнага сцяга і герба Лынтуп. Дарэчы, гэта паселішча па ўзросце крыху апярэджвае нават Паставы, бо ў пісьмовых крыніцах упершыню ўзгадваецца ў 1385 годзе. У розныя перыяды Лынтупамі (з балцкай мовы–"птушынай ракой" )валодалі прадстаўнікі родаў Бжастоўскіх, Глябовічаў, Бучынскіх. Потым гэтым мястэчкам стаў кіраваць пецярбургскі адвакат Юры Бішэўскі, які пасярод штучнага вострава узвёў у пачатку XX стагоддзя двухпавярховы палац з паркам у стылі рамантызму. Яны разам з касцёлам св. А. Баболі ўяўляюць асноўную цікавостку для турыстаў, а сядзібны ансамбль перайшоў нядаўна ва ўласнасць расійскай фірмы, якая збіраецца ператварыць яго ў сучасны цікавы аб'ект аграэкатурызму.

Ãëûáîöê³ ðà¸í

# Êîì ïàñ ó êí³æíûì ñâåöå

■ Станіслаў Раманчук

**Па выніках абласнога этапа рэспубліканскай прадметнай алімпіяды сёлета найбольшую колькасць узнагарод (адразу 19 дыпломаў) атрымалі школьнікі з Глыбоцкага раёна.**

Многія з тых, хто цягнецца да трывалых ведаў, цяпер з задавальненнем карыстаюцца паслугамі цэнтральнай раённай бібліятэкі. Гэта ўстанова адной з першых на Віцебшчыне стала бібліятэкай сямейнага чытання. Пад адным дахам у прасторным будынку былой "Рамбыттэхнікі" працуюць разам некалькі раней раскіданых па горадзе ўстаноў бібліятэчнай сістэмы. Ва ўтульным памяшканні з кніжным фондам 85 тысяч найменняў рознай літаратуры кожны жадаючы можа атрымаць неабходную інфармацыю, бо ёсць магчымасць падключэння асабістых ноўтбукаў. Таксама ў чытальнай зале для наведвальнікаў абсталяваны 6 аўтаматызаваных рабочых месцаў з выхадам у Інтэрнэт. Таму тут пастаянна ёсць наведвальнікі, а колькасць сталых чытачоў штомесяц набліжаецца да 700 чалавек, што даволі шмат для невялікага гарадка. Пажылым гараджанам і інвалідам супрацоўнікі бібліятэкі з задавальннем даставяць патрэбную кнігу дамоў.



# Лічба нумара

**8,9%** столькі балаў па шкале Рыхтэра склала нядаўняя магнітуда падземных штуршкоў падчас землятрусу, самага магутнага стыхійнага бедства ў гісторыі Японіі, а магчыма, і ўсяго чалавецтва. Гэта бяда, як вядома, адбылася днём на адлегласці 130 км ад узбярэжжа японскага вострава Хансю на глыбіні каля 30 км пад дном Ціхага акіяна. Ужо да чаго былі прывычныя жыхары краіны ўзыходзячага сонца, але на гэты раз маштабы наступстваў для гэтай нацыі і сусветнай эканомікі неверагодна страшныя.

Справа ў тым, што японцаў трасе практычна штодзённа, але слабыя землятрусы там непрыкметныя, жыхары да іх прывыклі і не заўважаюць. У мінулым стагоддзі гэта краіна перажыла 2 магутных землятрусы сілай 7,9 – 6,9 балаў у 1923 і 1995 гадах у прэфектурах Канто і Кобе. Тады ў пачатку 20-х гадоў былі разбураны практычна ўсе японскія гарады, уключаючы сталіцу Токіа. На гэты раз мегаполіс устаяў, хоць не абышоўся без пажараў і пашкоджанняў, дамы хісталіся, як дрэвы пры моцным ветры. Але цяпер маштабы новай японскай трагедыі ацэньваць складана, настолькі яны жудасныя.

У той трагічны дзень, 11 сакавіка, серыя моцных падземных штуршкоў справацыравала магутную хвалю цунамі, перад якой ужо не змагла выратавацца адна з самых тэхнічна падрыхтаваных да стыхіі дзяржаў свету. На японскія прыбярэжныя гарады і вёскі абрушыліся гіганцкія хвалі вышынёй за 10 метраў. Разбуральную сілу такой масы вады толькі павялічылі больш за 20 падземных штуршкоў сілай па 6 і болей балаў. Пад напорам цунамі практычна былі разбураны і знішчаны, як у фільме жахаў, дзве прэфектуры– Фукісіма і Міягі.

Складвалася ўражанне, што, дзякуючы інтэрнэту, чалавецтва назірае рэпетыцыю канца свету. З кожным днём расла колькасць тысяч ахвяр, трупы якіх вада прыносіла на бераг, некалькі дзясяткаў тысяч японцаў лічыліся прапаўшымі без звестак. Праўда, асаблівай панікі там не назіралася, але было вельмі страшна. Велізарныя хвалі крушылі ўсё на сваім шляху: на паўночнаўсходнім узбярэжжы краіны будынкі знішчаліся, як шчэпкі, і гарэлі, быццам факелы. Пад вадой апынуўся міжнародны аэрапорт Сендая, горада-пабраціма Мінска, цэлая ваенная база, школа, знесла з пуцей пасажырскія цягнікі.

Увогуле, Японія– краіна густанаселеная. Увесь свет бачыў, як гарэлі нафтахімічныя заводы, газавыя сховішчы, бензакалонкі нават за сотні км ад эпіцэнтра трагедыі. У гэты момант у краіне закрыліся ўсе марскія порты і аэрапорты, спынілі працу такія гіганты сусветнай індустрыі, як кампаніі Soni, Toyota і Nissan. Да ўсіх гэтых узрушэнняў далучылася серыя інцыдэнтаў на шэрагу японскіх АЭС.

На шчасце, па папярэдніх дадзеных, ніхто з беларусаў, хто там знаходзіўся ў момант бяды, не пацярпеў. Аднак Рэспубліка Беларусь, як і большасць краін, салідарная з японцамі і гатова шчыра ім дапамагчы. Ужо ў першыя дні трагедыі ў Японію паступілі лекі і медыцынскае абсталяванне з 70 краін свету, прыбылі атрады выратавальнікаў. Непакоіць, што ў эпіцэнтры землятрусу знаходзяцца 11 ядзерных рэактараў. Таму прыйшлося эвакуіраваць каля паўмільёна японцаў з зоны бедства, бо ўзровень радыяцыі значна павысіўся.

У такой сітуацыі, на жаль, падземныя штуршкі на тэрыторыі Японіі працягваюцца, па ацэнках спецыялістаў, толькі праз месяц абстаноўка з землятрусам нармалізуецца. У цэлым народ Японіі справіцца з гэтай прыроднай катастрофай, хоць наступствы землятрусу будуць адчувацца яшчэ працяглы тэрмін. Шкада толькі, што столькі загінула ні ў чым не вінаватых людзей, якіх не вернеш. А нам, беларусам, варта задумацца, ці правільна, па Боскіх запаветах, усе мы жывём. Падзеі ў свеце толькі папярэджваюць, наколькі кароткае жыццё чалавека, і як варта клапаціцца аб роднай прыродзе, берагчы яе. Тым больш, што Беларусь зараз сутыкнулася і сур'ёзнымі эканамічнымі праблемамі.

## Íàäâîð'å ¢ Ãëûáîê³ì

www.rp5ru

| | чацвер 24.03.11 | | | | пятн. 25.03.11 | | | | сб. 26.03.11 | | | | нядз. 27.03.11 | | | | пн.28.03. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 02:00 | 08:00 | 14:00 | 20:00 | 02:00 | 08:00 | 14:00 | 20:00 | 02:00 | 08:00 | 14:00 | 20:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература, °C | 0 | +3 | +3 | -2 | -4 | -2 | 0 | -3 | -5 | -5 | 0 | -3 | -4 | -4 | +1 | -2 | -4 | -2 | +3 |
| Ціск, мм | 744 | 741 | 741 | 743 | 742 | 741 | 741 | 741 | 742 | 743 | 744 | 745 | 747 | 748 | 749 | 749 | 748 | 746 | 744 |
| Вільготнасць, % | 66 | 79 | 41 | 46 | 60 | 51 | 40 | 43 | 59 | 55 | 23 | 51 | 71 | 75 | 39 | 59 | 64 | 52 | 30 |
| Вецер м/сек | Ю-З 6 | С-З 9 | С-З 11 | С-З 7 | С-З 7 | С-З 9 | С-З 9 | С-З 6 | С-З 4 | С-З 4 | С-З 4 | З 4 | С-З 3 | С-З 3 | С-З 4 | З 3 | Ю-З 4 | Ю-З 6 | Ю-З 9 |
| | | 06:03 18:30 | | | | 06:00 18:32 | | | | 05:58 18:34 | | | | 06:55 19:36 | | | 06:52 19:38 | | |

## Äçåíü çà äí¸ì

**Краіна пайшла сёлета на антырэкорд, бо толькі ў студзені 2011 года адмоўнае сальда знешняга гандлю склала 902,6 млн. $, экспарт айчынных тавараў на Захад упаў на 45,8 %, а імпарт вырас больш чым у 2 разы. Беларускім вытворцам забаранілі набываць валюту на ўнутраным рынку для закупак абсталявання на суму звыш 50 тыс. еўра. А толькі ў лютым рост цэн у Беларусі склаў 2,7 %, пад ціскам інфляцыі стаўку рэфінансавання прыйшлося павысіць на 1,5 % да 12 % гадавых.**

# Âàæíåéøûÿ íàâ³íû ñâåòó

**Японія.** Да вялізных разбурэнняў і мноства ахвяр прывёў найбуйнейшы ў гісторыі краіны землятрус сілай амаль 9 балаў, вялікая хваля цунамі накрыла японцаў і іх суседзяў.

**Лівія.** З-за ўведзеных Саветам бяспекі ААН санкцый толькі Расія недаатрымае каля 4 млрд. долараў па заключаных раней кантрактах на пастаўку запчастак і баявой тэхнікі.

**Італія.** Услед за Англіяй і Францыяй краіна выступіла ў падтрымку паўстанцаў у Лівіі, прызнала законным органам улады апазіцыю, Германія замарозіла рахункі клана Кадафі.

**Швейцарыя.** Міжнародны суд, сфарміраваны па рашэнні Савета Бяспекі ААН, прыступіў да расследаванняў магчымых злачынстваў супраць чалавецтва клана Кадафі.

**ЗША.** На баявое дзяжурства ў Сяродземным моры заступіў амерыканскі ракетны крэйсер "Мантэрэй", аснашчаны навейшай радарнай сістэмай ПРО "Іджыс" .

**Польшча.** Польскі сейм заклікаў парламенты і ўрады ўсіх краін Еўропы, ПА АБСЕ і Еўрапарламент рашуча падтрымаць народ Беларусі і яе грамадзянскую супольнасць.

**Францыя.** Прэзідэнт М. Сарказі заявіў, што французскі народ не жадае бачыць Турцыю ў складзе ЕС, аднак удалося падпісаць з туркамі дагавор аб рэадмісіі.

**Балгарыя.** Прыём краіны разам з Румыніяй у Шэнгенскую зону адкалі на другую палову 2011 года, у гэту прастору збіраюцца прыняць таксама яшчэ Ірландыю, Англію і Кіпр.

**Літва.** Краіна пачала рэформу газавага сектара і раздзяліла продаж і транспарціроўку газу, каб пазбавіць канцэрн "Газпрам" кантролю над сваёй газатранспартнай сеткай.

**Ірландыя.** Улады сталіцы Дубліна і іншых гарадоў сталі бясплатна прадастаўляць жыхарам і гасцям прагулачныя трохкалёсныя велатаксі за сродкі рэкламадаўцаў.

**Казахстан.** Ва ўрадзе краіны вырашылі пабудаваць на працягу 5 гадоў 400 новых сучасных прадпрыемстваў з тэхналогіямі ноу-хау.

**Карэя.** Краіна выйшла на 1-е месца ў свеце па хуткасці дамашняга інтэрнэта (36,8 Мбіт/сек), у Беларусі яго хуткасць у 7 разоў меншая (5,59 Мбіт/сек) і толькі 68-е месца.

**Францыя.** Лідар праварадыкалаў Мары Ле Пен заявіла пра забарону на ўезд імігрантаў і нават аб выхадзе Францыі з ЕС, калі вясной 2012 года яна стане прэзідэнтам краіны.

**Кітай.** Улады краіны зноў закрылі доступ у Тыбецкі аўтаномны раён для замежных турыстаў, тут неспакойная абстаноўка, вясной 2008 года былі сутычкі з паліцыяй.

**Бахрэйн.** Адмена першага Гран-пры "каралеўскіх гонак" сезона-2011 пазбавіла арганізатараў "Формулы-1" 100 млн. $, страты каманд-удзельніц склалі 40 млн. $.

## Ö³ áóäçåì ïåðàâîäç³öü ñòðýëê³ ãàäç³íí³êà¢ ó êàíöû ñàêàâ³êà?




**Будзем! На тэрыторыі Беларусі 27 сакавіка стрэлкі гадзіннікаў пераводзяцца на адну гадзіну наперад**

На тэрыторыі Беларусі 27 сакавіка а 2.00 ночы стрэлкі гадзіннікаў пераводзяцца на адну гадзіну наперад. Такім чынам, у Беларусі будзе ажыццёўлены пераход на летні час.

Нагадаем, што следам за Расіяй у Беларусі могуць адмовіцца ад пераходу на зімовы час. Такім чынам у канцы кастрычніка стрэлкі назад пераводзіцца не будуць, і сакавіцкі перавод стрэлак стане такім чынам апошнім.

# Ïàäçå³, ïðà ÿê³ÿ ãàâîðûöü Áåëàðóñü

**Мінск.** 14 чэрвеня пачнецца ў Беларусі цэнтралізаванае тэсціраванне для абітурыентаў па 11 прадметах, рэзервовым днём прызначылі 4 ліпеня.

**Астравец.** Расійскі "Атамбудэкспарт" заявіў аб гатоўнасці запусціць тут Беларускую АЭС з ядзерным рэактарам у 2017 годзе, расіяне плануюць запусціць другі блок АЭС у 2018 г.

**Столін.** Фірма "Савушкаў прадукт" адкрыла ў райцэнтры свой сучасны філіял па выпуску да 40 тон сыроў у суткі па тэхналогіях XXI стагоддзя, аб'ём інвестыцый – 40 млрд. рублёў.

**Мінск.** «Канцлагерам у цэнтры сталіцы» назваў СІЗА КДБ экс-кандыдат у прэзідэнты Алесь Міхалевіч, там яго распраналі дагала і пагражалі невядомыя асобы ў чорных масках.

**Салігорск.** "Беларуськалій" аб'явіў аб вымушаным выхадзе са складу ЗАТ "Міжнародная калійная кампанія" і выставіў на продаж свой пакет акцый (33 %).

**Мінск.** Праз месяцпаўтара цэны на бензін у РБ зноў падымуцца, спрагназаваў эканаміст С. Чалы, дзесьці на 5 %, бо сітуацыя ў бюджэце няпростая.

**Магілёў.** Амаль 1150 новых рабочых месцаў будзе праз год на дрэваапрацоўчым прадпрыемстве на зборцы мэблі шведскай кампаніі IKEA, уся яна пойдзе на экспарт.

**Мінск.** У Генпракуратуры Беларусі падрыхтавалі законапраект, які забараняе непаўналетнім знаходзіцца ноччу ў грамадскіх месцах без суправаджэння дарослых.

**Гродна.** Услед за Польшчай і Літвой на цэнтральнай плошчы горада ў 10-ты раз прайшла буйная выстава-кірмаш народных майстроў "Казюкі".

**Мінск.** Суд Маскоўскага раёна сталіцы пакараў толькі штрафамі па 300 БВ абодвух грамадзян РФ, а яшчэ аднаго ўдзельніка падзей на плошчы– абмежаваннем волі.

**Шчучын.** Міністэрства культуры РБ пачало рыхтаваць дакументы на ўнясенне царквы-крэпасці XVI ст. вёскі Мураванка ў спіс Сусветнай культурнай спадчыны ЮНЕСКА.

**Мінск.** У Беларусі забароняць увоз і вытворчасць тэлевізараў без лічбавага цюнера, гатовы прадаць ААТ "Прамсувязь" і айчынную долю (51 %) у расійскай кампаніі МТС.

**Бяроза.** Райаддзел міліцыі шакіраваў трагічны выпадак з калегам, 23-х гадовым маладым следчым, які не вытрымаў праблем асабістага жыцця і застрэліўся ў службовым кабінеце.

**Мінск.** Пасля пападання ў спіс неўязных у ЕС глава Федэрацыі футбола Беларусі Генадзь Нявыглас падаў у адстаўку, каб не ствараць канфліктную сітуацыю і не шкодзіць АФФБ.

**Магілёў.** Жыхарам горада прыйшлася да спадобы новая канцэртная зала класічнай музыкі на 500 месц з выдатнай акустыкай, там можна паказваць і тэатральныя спектаклі.

## Ó Áåëàðóñ³ íàç³ðàåööà ïàâûøàíû ïîïûò íà äàëÿðû ³ å¢ðà

У Віцебску, як, між іншым, і па ўсёй Беларусі, у апошнія дні назіраецца ажыятажны попыт на даляры і еўра. У абменных пунктах і ў банкаматах утвараюцца велізарныя чэргі, на некаторых ужо з'явіліся аб'явы пра адсутнасць валюты.

Ажыятаж звязаны з новай хваляй чутак пра хуткую дэвальвацыю нацыянальнай валюты, якія заснаваны на рэкамендацыі Міжнароднага валютнага фонду правесці дэвальвацыю беларускага рубля на 25%, зроблений у апошняй справаздачы пра стан эканомікі Беларусі.

У той жа час старшыня праўлення Нацыянальнага банка Пётр Пракаповіч заявіў на прэс-канферэнцыі ў Менску: "Мы ўжо другі год як гаворым, што няма ніякай неабходнасці скупляць валюту. Курс стабільны і будзе заставацца стабільным у межах усталяванага калідора плюс-мінус 8% да кошыка валют".

# Ïàíàðàìà ¢íóòðûàáëàñíûõ ïàäçåé

**Орша.** Па праграме рэканструкцыі льнокамбіната сёлета павінны закупіць больш 700 адзінак новага сучаснага абсталявання і павялічыць долю гатовых фарбаваных тканін.

**Полацк.** За перамогу ў рэспубліканскім конкурсе Полацк прызналі лепшым горадам для бізнесу ў Беларусі, адпаведны сертыфікат атрымаў цэнтр падтрымкі прадпрымальніцтва.

**Журжава.** Да канца года на тэрыторыі СЭЗ "Віцебск" на поўную магутнасць выйдзе новы расійска-беларускі завод па зборцы штогод да 1500 адзінак рознай спецаўтатэхнікі.

**Шуміліна.** Для новай фермы СВК "Прыазёрны" на заводзе "Тэхналіт" у Полацку выпусцілі першы камплект абсталявання па ліцэнзіі аўстрыйскай фірмы "GEA Farm Tech".

**Верхнядзвінск.** Моцная паводка на рацэ Заходняя Дзвіна пагражае жыхарам райцэнтра, бо ў яе вярхоўях шмат снегу, таўшчыня лёду каля 40 см, у зоне падтапленння шмат дамоў.

**Расоны.** Хатняя гаспадыня Валянціна Жук і работніца Краснапольскай СШ Наталля Зафатаева атрымалі ў абласным цэнтры ордэны Маці, яны гадуюць па 5 дзяцей.

**Орша.** Са смуткам жыхары раёна даведаліся аб смерці земляка, вядомага беларускага пісьменніка Янкі Сіпакова, які ў пачатку года адсвяткаваў 75-гадовы юбілей.

**Віцебск.** У арт-цэнтры Марка Шагала прайшла выстава 70 работ французскай мастачкі Франсуазы Лімузі "Вада і скала" пры падтрымцы французскага пасольства ў Беларусі.

**Лёзна.** Два месяцы пасля аварыі водаправода жылі без вады палова жыхароў-пенсіянераў з вёскі Уно, у калгаса "Адаменкі" няма грошай на рамонт зношаных на 100 % сетак.

**Талачын.** Калі бацькі вечарам былі на рабоце на ферме, падчас пажару загінуў 7-гадовы хлопчык у вёсцы Серкавічы, атруціўшыся дымам.

**Наваполацк.** У гарадскім Палацы шлюбаў адбыўся першы ў гісторыі нафтаграда маладзёжны баль, пары танцавалі старажытныя танцы пад класічную музыку.

**Браслаў.** У азёрным краі за год скончылі жыццё самагубствам 12 жыхароў, аднак у псіхбальніцы "Слабодка" лячыліся яшчэ 79 чалавек, якія спрабавалі пайсці з жыцця.

**Віцебск.** Яшчэ 10 вядучых хакеістаў ХК "Віцебск" пакінулі каманду з-за малых зарплат і даўгоў па прэміяльных за два сезоны.

**Шуміліна.** З рызыкай для жыцця ваджыцель райаддзела МНС Сяргей Марозаў вечарам пасля службы вынес з агню палаючага дома 5-гадовую дзяўчынку і яе бабулю.

**Віцебск.** На вежузвонніцу аднаўляемага Свята-Успенскага праваслаўнага сабора паднялі 11 вялізных званоў, адлітых у Маскве на заводзе "ЗІЛ" за сродкі расійскіх мецэнатаў.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

■ **Фадзей Шымуковіч,**
*педагог-пенсіянер,*
*г. Дзісна.*

# Яўрэйская дыяспара ў Дзісне

## Дзісна вымірае, і няма каму за яе заступіцца!

Калі ўпершыню з'явіліся яўрэі ў Дзісне, дакладных звестак няма. Напэўна, дзесьці на мяжы XV і XVI ст., калі на іх было ганенне ў краінах Заходняй Еўропы і яны вымушаныя былі масава перасяляцца на Усход. На Украіне і Расіі іх сустрэлі не зусім дружалюбна, наклалі абмежаванні ў правах. А вось у Вялікім Княстве Літоўскім яны знайшлі добры прытулак, а таму сталі рассяляцца ўсюды, аддаючы перавагу гарадам і мястэчкам. Паколькі горад Дзісна знаходзіўся на перакрыжаванні гандлёвых шляхоў, то яўрэі не маглі не звярнуць на гэта ўвагі. Дзісна ў гэты час уваходзіла ў склад Віленскай губерніі, таму ўсе дакументы, якія адносяцца да гэтага перыяду, знаходзяцца ў Вільні. Але па архіўных матэрыялах, якія знаходзяцца ў Мінску, смела можна судзіць, што яўрэйская дыяспара ў Дзісне знайшла самыя прыдатныя ўмовы для развіцця.

У 1838 годзе ў Дзісне пражывала 4528 жыхароў, з іх было 1949 яўрэяў. Для параўнання, у Вілейцы пражывала 3120 жыхароў і з іх толькі 339 яўрэяў. Асноўным заняткам яўрэйскага насельніцтва быў гандаль, хоць сярод іх былі выдатныя кавалі, шаўцы, краўцы, цырульнікі, слесары і іншыя.

Дзісна стаяла на перакрыжаванні гандлёвых шляхоў, і многія яўрэі самі былі ўдзельнікамі гандлю не толькі ўнутры горада, але і на тэрыторыі ВКЛ і за мяжой. Дзісна – цэнтр транзітнага гандлю праз Рыгу па Заходняй Дзвіне да Балтыйскага мора. Ужо ў XVII ст. лён Дзісненскага павету атрымаў славу ў Даніі, Галандыі, Бельгіі і Англіі, які ішоў на парусное палатно для флота. Ужо ў 1820 годзе на дзвюх прыстанях Дзісны грузілася 33 судны, у 1821 годзе – 37 суднаў, у 1833 годзе – 139 суднаў. На экспарт ішоў лён, хлеб, смала, прадукты. Імпарт – соль, селядка, вырабы з металу. Гандаль ішоў не толькі па Заходняй Дзвіне і па рацэ Дзісне, але і наземным шляхам. З Мінска ў Дзісну праз Лагойск, Вілейку, Докшыцы ішла дарога 2-га разраду. Па правым беразе Заходняй Дзвіны да Полацка ішла дарога, якая насіла назву "Купецкі тракт".


Дзісна. Колішняя сінагога.

Усё гэта станоўча адбівалася на развіцці і горада, і яўрэйскай дыяспары. У 1858 годзе ў Дзісне ўжо пражывала 5183 жыхары. З усяго насельніцтва маёмасцю валодала ў горадзе ўсяго 478 чалавек. Гэта каля 20 купцоў (1– 1-й гільдзіі, 17 – 3-й гільдзіі), большасць з іх яўрэі. Уласнікамі маёмасці былі 280 мяшчан, у тым ліку 200 з іх яўрэі; 79 рамеснікаў, з якіх 75 яўрэі. Гэта доказ таго, што яўрэйскае насельніцтва карысталася аднолькавымі правамі з усімі іншымі грамадзянамі. Іх правы ахоўваў закон. Яшчэ ў 1751 годзе яўрэі Дзісны падалі ў суд на старасту горада. Яны сцвярджалі, што староста іх прыцясняе. Суд рашыў: "Яўрэі – раўнапраўныя жыхары горада, і ніхто не мае права іх прыцясняць. Дазваляецца пабудаваць сінагогу. Толькі не ў горадзе, а ў прыгарадзе. І без шкоды для горада. Сінагога павінна знаходзіцца далей ад касцёлаў і цэркваў. І абавязкова павінна быць ніжэйшай за іх".

У 1866 годзе ў горадзе 6066 жыхароў, з якіх 2635 яўрэяў. У горадзе ўжо 43 купцы. Але чамусьці ў Дзісне толькі адзін равін, у той час як у Вілейцы з маленькім складам яўрэйскага насельніцтва іх 13. У 1893 годзе ў Дзісне ўжо 8988 жыхароў, сярод якіх 4307 яўрэяў, або 48% ад агульнай колькасці людзей. З гэтага часу і да пачатку Вялікай Айчыннай вайны лік яўрэйскага насельніцтва Дзісны ніколі не апускаўся ніжэй за 50% ад агульнай колькасці жыхароў.

З увядзеннем у строй Арлоўска-Рыжскай чыгункі, якая прайшла праз Боркавічы, усяго за 13 км ад Дзісны, некалькі падарвалася эканоміка горада, але гандаль па Заходняй Дзвіне працягваў прыносіць нядрэнны прыбытак.

Падкасіў эканоміку спад вытворчасці, і асабліва гандлю ў 1904-1908 гг. І тут яўрэйскія купцы аказаліся на вышыні. Яны своечасова зразумелі і адрэагавалі на тое, што з'явіўся попыт не толькі на лён, але і на сметанковае масла. Пачынаючы з 1905 года ў павеце пачалася вытворчасць сметанковага масла і пастаўка яго ў Еўропу. Ужо ў 1907 годзе толькі ў Англію было прададзена масла на 175000 рублёў. Для адзнакі гэтай сумы згадаю, што кашталрысны кошт бальніцы на 100 ложкаў, пабудаванай у 1903 годзе, склаў 41523 руб.

У 1921 годзе па Рыжскім мірным дагаворы горад Дзісна ўвайшоў у склад панскай Польшчы. Хоць сам павет называўся Дзісненскі, у сувязі з тым, што мяжа праходзіла па Заходняй Дзвіне, цэнтрам павета стала мястэчка Глыбокае. Шмат багатых людзей, у тым ліку яўрэяў, перабралася ў Глыбокае.

Дзісна ад гэтага не вельмі пацярпела, а вось Заходняя Дзвіна страціла свой статус гандлёвай артэрыі, знізіліся паступленні ў гарадскую казну. Прамысловасць развівалася слаба, асноўны прыбытак быў ад гандлю і падаткаў. Гарадскія ўлады былі зацікаўлены ў развіцці гандлю і ўсяляк садзейнічалі яўрэям у яго арганізацыі. У горадзе цэлыя вуліцы былі забудаваны цаглянымі двухпавярховымі дамамі, на першых паверхах былі магазіны, а на другіх – жылыя памяшканні. Вельмі шмат было дробных лавачак. Кожны аўторак і кожную пятніцу ў Дзісне быў кірмашовы дзень. З'язджалася шмат людзей з вёсак. Кожны селянін меў у Дзісне "сваю" пастаянную яўрэйскую сям'ю, дзе мог спыніцца ў любы час. Трэба адзначыць, што яўрэі былі вельмі прыстойнымі людзьмі, заўсёды гатовымі прыйсці на дапамогу нават малазнаёмаму чалавеку.

Народ гэты ніколі не быў утрыманцам. Кожны яўрэй быў заняты справай: хто рамяством, хто аказваў паслугі, хто гандляваў. Была арцель, якая наймалася трапаць (выбіваць кастру) лён.

У 1932 годзе адзначалася 50-годдзе стварэння ў Дзісне Добраахвонага пажарнага таварыства, якое складалася ў большасці з яўрэяў. Па словах старажыла Фурса Яўгена Іосіфавіча, яно складалася з 5 рот, у якіх было па 100 чалавек. Пры пажарнай камандзе быў добры духавы аркестр, пад гукі якога па выхадных днях у гарадскім парку вальсіравалі мясцовыя кавалеры і паненкі. Таксама быў добры струнны аркестр, драматычны гурток, які ў "Чайнай" часта паказваў спектаклі яўрэйскіх драматургаў.

Яўрэі вывучылі беларускую мову, ведалі і паважалі хрысціянскія традыцыі і святы. Дзеці і моладзь тых і другіх жылі вельмі дружна, ніякай нацыянальнай нянавісці не было. Хаця яўрэі ніколі не забывалі сваю мову, культуру, рэлігію.

З прыходам савецкай улады ў 1939 годзе ўсе багатыя людзі, інтэлігенцыя і проста служачыя былі вывезены ў Архангельскую вобласць, Сібір і іншыя месцы.


Дзісна. Яўрэйскія рабочыя пашыраюць тэрыторыю могілак. Фота да 1939 г.

З ліпеня 1941 г. нямецкія войскі ўвайшлі ў Дзісну. Адразу ж пасля акупацыі горада немцы стварылі мясцовыя органы ўлады і паліцыю. 25 ліпеня быў выдадзены загад, які абавязваў усіх яўрэяў сканцэнтравацца на тэрыторыі вуліц Полацкай і левым баку вул. Глыбоцкай (цяпер Леніна) і завулкам паміж імі. У гета былі сагнаныя яўрэі не толькі з Дзісны, але і з навакольных вёсак. Многія дзісненскія яўрэі ў гэты час былі ў Глыбокім і Лужках, яны збеглі туды яшчэ да стварэння гета ў Дзісне.

У 1942 годзе перад святам Песах нацысты правялі першую акцыю па знішчэнні яўрэяў. Трыццаць яўрэяў, іх узялі прама з дому і 13 сакавіка за ўніяцкім могільнікам перад Дарожкавічамі расстралялі. Свята Песах прайшло ў страху і неспакоі. Папаўзлі чуткі, што гета будзе ліквідавана. У маі 1942 года былі ліквідаваны гета ў Лужках і Мёрах, яшчэ ў некалькіх гарадах і мястэчках. Для яўрэяў наступіў трывожны час чакання самых страшных падзей.

14 чэрвеня 1942 года пачалася аперацыя па ліквідацыі гета ў Дзісне. Яўрэі адчулі, што рыхтуецца аперацыя і ўстанавілі пасты каля кожнага дома, каб не даць забойцам захапіць сябе і паспець збегчы. У кожным доме напагатове стаяла ёмістасць з керасінам, каб падпаліць дом і не пакінуць маёмасць забойцам. Але гета было акружана суцэльным колам з салдат і паліцаяў. Непадалёк ад гета былі вырытыя дзве вялікія ямы 5м шырынёй, 4м глыбінёй і 120м даўжынёй. Папярок пакладзены дошкі. Невялікімі партыямі яўрэяў прыводзілі да ям, загадвалі распранууцца і па 5 чалавек заганялі на дошкі, пасля чаго з кулямётаў і аўтаматаў адкрывалі агонь. Забітыя, параненыя, а парой і жывыя людзі валіліся ў ямы. Крыкі, стогны, праклёны чутны былі за некалькі кіламетраў.

Многія, асабліва моладзь, кінуліся ўцякаць. Іх наганялі кулі, а трупы сцягвалі ў ямы. Нямногім удалося ўратавацца. Калі ўсё гета было знішчана, ямы закідалі зямлёй. Відавочцы кажуць, што зямля хадзіла хадуном яшчэ дні два. На паверхню месцамі стала выступаць кроў. Баючыся эпідэміі, карнікі засыпалі ямы хлорнай вапнай. У гэты дзень было знішчана 3800 старых, жанчын, дзяцей толькі за тое, што яны былі яўрэямі. На месцы забойства паставілі помнік. Кожны год 14 чэрвеня сюды прыязджаюць нямногія сваякі, каму пашчасціла застацца жывымі.

Пасля чэрвеньскага расстрэлу ў Дзісне яшчэ заставаліся яўрэі – спецыялісты, патрэбныя немцам. Гэта былі шаўцы, краўцы, кавалі, сталяры, слесары, цырульнікі, якія працавалі на патрэбы немцам. Калі іх паслугі не сталі патрэбныя, 23 снежня 1943 года іх расстралялі ў цяперашнім гаражы бальніцы, а потым вывезлі за горад і закапалі. Там зараз стаіць помнік.

З ліпеня 1944 года Дзісна вызвалілася ад нямецкіх акупантаў. Горад ляжаў у руінах. Але самыя цяжкія страты – людзі. Вярнулася ў Дзісну 500-800 чалавек. У іх ліку з больш чым пяці з паловай тысяч яўрэяў, якія пражывалі ў Дзісне да вайны,– усяго некалькі дзясяткаў. Але што гэта былі за людзі! Асобы!

Райпрамкамбінат узначаліў Рувім Леках. Ён наладзіў работу пякарні. Разумеў, што хлеб – усяму галава. У горадзе поўным ходам ішло будаўніцтва. Леках з навакольных вёсак запрасіў добрых майстроў і адкрыў сталярны цэх, дзе ішоў выраб аконных і дзвярных блокаў, апрацоўка дошак і іншых неабходных вырабаў. Адкрыў цэх па перапрацоўцы гародніны. Арганізаваў сетку нарыхтоўшчыкаў у вёсках, якія закуплялі ў насельніцтва скаціну для забеспячэння мясам каўбаснага цэха. Не выпусціў з віду ён і тыя абставіны, што за 18 км ад Дзісны размешчана агромністае балота Ельня, дзе ў той час было многа журавін. Ён арганізаваў па перыметру балота цэлую сетку нарыхтоўшчыкаў, якія скуплялі ў насельніцтва журавіны. За восень ён нарыхтаваў сотні тон ягад. Частку перапрацоўвалі ў віно і ліманад, а асноўную масу адвозілі ў Боркавічы, грузілі ў вагоны і адпраўлялі ў Рыгу, на Паўднёвы Урал і Сярэднюю Азію. Ад гэтага райпрамкамбінат меў добрыя грошы, за лік якіх папаўняўся гарадскі бюджэт і набывалася неабходнае абсталяванне. Такім чынам ён купіў пілараму, лакаматыў для цаглянага завода ў Горках і іншае абсталяванне.

*Заканчэнне на стар. 6*



# Як нам разам ачысціць берагі і вадаёмы?

■ А.В. Протас,
*начальнік Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.*


Воз. Мнюта.
*Фота Ул. Скрабатуна.*

25 .03. 2011 г. а 18-й гадзіне у будынку ГЦК – сустрэча работнікаў Глыбоцкай міжрайінспекцыі, адказных супрацоўнікаў раённага выканаўчага камітэта, арандатараў рыбалоўных угоддзяў і рыбаловаў-аматараў.

Вясна ўсё актыўней уступае ў сваіх правы, але і зіма не здаецца. На вадаёмах усё яшчэ пакрыты тоўстым пластом лёду, і рыбаловы-аматары штодня звяртаюцца да работнікаў Глыбоцкай міжрайінспекцыі з пытаннем, ці можна будзе лавіць рыбу з лёду пасля 1 красавіка, калі наступіць забарона і абмежаванні на лоўлю рыбы.

Паводле п. 136 Правілаў вядзення рыбалоўнай гаспадаркі і рыбалоўства, лоўля рыбы з 1 красавіка дазволена толькі адной вудай ці спінінгам з берага, г.зн. лоўля з лёду забаронена, і ў выпадку парушэння дадзеныя дзеянні рыбалова разглядаюцца як здабыча рыбы забароненым спосабам, што цягне пакаранне ад 10 да 50 базавых велічынь па ч.1 арт. 15.35 Ко АП РБ.

Не лішнім будзе нагадаць нашым рыбаловам, што стаянка аўтатранспартных сродкаў бліжэй за 30 метраў ад берагавой лініі вадаёма забаронена, мыйка транспартных і іншых тэхнічных сродкаў у межах водаахоўных зон забаронена, выкід смецця ў рыбалоўных угоддзях забаронены, знаходжанне ў рыбалоўных угоддзях і на прылеглай да іх тэрыторыі на адлегласці да 1 км ад берагавой лініі з забароненымі прыладамі рыбалоўства і рыбай, лоўля якой у дадзены час ці ў дадзеным раёне забароненая або вага якой перавышае нормы, без дакументаў, якія пацвярджаюць законнасць валодання рыбай, з'яўляецца парушэннем і цягне адміністрацыйную або крымінальную адказнасць у залежнасці ад прычыненай шкоды.

Тэма смецця вельмі надзённая для нашых вадаёмаў. Калі пагалядзець на ледзяны полаг азёр, то можна часам падумаць, што хтосьці вяселле спраўляў: гэтулькі пустых бутэлек, рэштак ежы, смецця. З прыходам цяпла ўсё гэта паплыве да берагоў, застанецца на дне азёр, дзе купаемся ўлетку мы, нашы дзеці, родныя. Паглядзіце на берагі нашых малых рэк, якія цякуць праз населеныя пункты, праз горад. На берагах уладкаваны цэлыя смеццевыя звалкі, высыпаюць усё: слоікі з-пад кансерваў, попел, пясок, пабытавыя адходы, з прыходам вялікай вады ўсё гэта паплыве ў вадаёмы. Можна казаць, а дзе наглядныя органы, але ж да кожнага вадаёма інспектараў і міліцыянераў не паставіш, а вось дзе наша сумленне– гэта вялікае пытанне. 25 сакавіка 2011 года а 18-й гадзіне ў будынку Гарадскога цэнтра культуры будзе праводзіцца сустрэча работнікаў Глыбоцкай міжрайінспекцыі, кіраўнікоў раённага выканаўчага камітэта, арандатараў рыбалоўных угоддзяў і рыбаловаў- аматараў, і адным з пытанняў будзе барацьба са смеццем на вадаёмах. Вельмі хацелася б пачуць слушныя прапановы, як нам разам ачысціць берагі і вадаёмы.

У мінулым, 2010 годзе супрацоўнікамі міжрайінспекцыі за выкід смецця прыцягнута да адказнасці больш за 30 грамадзян, але гэта ўсяго толькі маленькая частка парушальнікаў. Сёлета пакаранне будзе больш жорсткім, а штрафы за такія парушэнні павялічаны.

Калі Вам стала вядома пра парушэнні прыродаахоўнага заканадаўства або Вы сталі сведкамі, просьба паведаміць на тэлефон «гарачай лініі» Глыбоцкай міжрайінспекцыі: 2-86-70 (кругласутачна) ці на мабільныя тэлефоны: 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49.

Закідаюць хлопцы вуды:
Хто на хлеб, на матылька,
Не глядзіць ніхто нікуды,
Воч не зводзячы з кіўка.
Тут патрэбен спрыт, снароўка,
І характар клёву знаць,
Трэба ў час і вельмі лоўка
Рыбку хітрую падцяць.

# Закідаюць хлопцы вуды

■ Уладзімір Шалаеў.
Фота – Віталь Сівы.

**Амаль пад занавес сезона самыя заўзятыя аматары падлёднага лову рыбы звыш паўтысячнага працоўнага калектыву УП ЖКГ Глыбоцкага раёна 20 сакавіка на Запліскім возеры ўпарта змагаліся за званне лепшых рыбаловаў прадпрыемства як у асабістым, так і ў камандным заліку і за адпаведныя прызы.**

Змагацца было за што. У мэтах заахвочвання работнікаў да здаровага ладу жыцця і згуртаванасці калектыву гаспадарка грошай не шкадуе. Апроч грамат і дыпломаў, у якасці прызоў прафкам набыў рыбалоўную катушку (85 тыс., 1месца ў асабістым заліку), палатку (2 месца), набор флажкоў (3 месца), зімовую вуду і іншыя дробныя прызы для ўзнагароджвання ў розных намінацыях. Згодна калектыўнай дамовы, пераможцы ўзнагароджваюцца адміністрацыяй гаспадаркі ў памеры 1 базавай велічыні, а прызёры напалову менш.

Спаборніцвы праходзілі ў два этапы. На першым этапе рыбакі дэманстравалі сваё майстэрства з 6 да 12 гадзін і на любым участку возера. У лік фіналістаў трапілі: Ю.Рэшатоўскі (1410г.),Я.Самсонаў (1360г.), А.Арлоў (1190г.), В.Поразаў (765г.), П.Майціковіч (665г.), А.Кухта (560г.). Самую вялікую рыбіну (185г.) злавіў Віталь Шынкевіч, самую маленькую – Юрась Рыжы. На другім этапе фіналісты змагаліся на працягу гадзіны на канкрэтным участку возера. Вынікі першага ануляваліся. У выніку ўпартай барацьбы чэмпіёнам сезону па падлёдным лове рыбы УП ЖКГ Глыбоцкага раёна стаў Яўген Самсонаў (410г.). Другое месца – Юрась Рэшатоўскі (260г.), трэцяе – Валянцін Поразаў (140г.)

У камандным заліку: 1 месца -каманда аўтатранспарта ў складзе: Я.Самсонаў, А.Арлоў, В, Поразаў; 2 месца – каманда КіЦС у складзе:Ю.Рэшатоўскі, А.Кухта, А.Серада: 3 месца – адміністрацыя, якую ў гордым адзіноцтве адстойваў Л. Корнышаў.

Галоўны суддзя спаборніцтваў–Віталь Сівы, сакратар – Леанід Корнышаў.


Яўген Самсонаў – пераможца спаборніцтваў.


Заўзятыя рыбакі-аматары УП ЖКГ Глыбоцкага раёна

**Пачалася еўрапейская кампанія па назіранні за птушкамі «Жывая вясна». Арганізатарам кампаніі ў Беларусі выступае ГА «Ахова птушак Бацькаўшчыны» (АПБ).**

# У Беларусі пачалася еўрапейская кампанія па назіранні за птушкамі «Жывая вясна»

Як паведаміў БелаПАН спецыяліст па экалагічнай адукацыі АПБ Руслан Шайкін, мэта акцыі– прыцягнуць людзей да назірання за веснавой міграцыяй птушак. Усім ахвотным прапануюецца паназіраць за пяццю відамі птушак, якія прылятаюць у Беларусь вясной: белым буслам, вясковай ластаўкай, зязюляй, чорным стрыжом, залацістай шчуркай. А затым размясціць інфармацыю аб відзе птушак, даце і месцы назіранняў на сайце www. springalive.net. Таксама можна патэлефанаваць на нумар 8 (017) 263-06-13 або даслаць SMS на нумар 0841.

На сайце размешчана карта Еўропы, на якой будуць адлюстроўвацца вынікі назірання за птушкамі жыхароў 36 краін-удзельніц акцыі. Па меры паступлення інфармацыі кожная краіна будзе набываць на карце больш насычаны колер, што сімвалізуе наступленне «жывой вясны».

Як паведаміў Шайкін, на сайце зарэгістравана прыкладна 700 паведамленняў ад усіх краін-удзельніц. У суседніх з Беларуссю Украіне і Польшчы ўжо заўважаны белыя буслы. Гэтых птушак бачылі і ў Беларусі, аднак назіральнікі за прылётам белых буслоў, жыхары Жодзіна, пакуль не ўнеслі інфармацыю на сайт.

Сёлета падчас кампаніі ўпершыню прапануўваецца назіраць за залацістай шчуркай. Для Беларусі, у адрозненне ад шэрагу краін Еўропы, гэта рэдкі, занесены ў Чырвоную кнігу від.

Спецыяліст паведаміў, што кампанія працягнецца да сярэдзіны чэрвеня. Пасля яе завяршэння краіны-ўдзельніцы будуць праранжыраваны ў адпаведнасці з іх актыўнасцю. Летась Беларусь увайшла ў пяцёрку лідараў, усяго ад жыхароў краіны паступіла 4 тыс. паведамленняў аб заўважаных птушках.

*Анастасія Янушэўская, БелаПАН.*


Залацістая шчурка

Фотафакт



Ідучы па Глыбокім, часам можна ўбачыць розныя праявы вандалізму. То лаўкі перавернутыя, то сметніца перакуленая, то яшчэ што… Днямі вось невядомыя боўдзілы разламалі прыбіральню, што стаіць каля коўзанкі на Кагальным. Цікава, чым кіруюцца гэтыя людзі, знішчаючы тое, што зроблена працай іх землякоў?..

*Фота Кастуся Шыталя*

# Няправільнае падключэнне электрапрыбораў – смяротна небяспечна

■ **Ішуцін А.Н.,**
*інспектар Глыбоцкай інспекцыі Энерганагляду.*

Неаднаразова ў сродках масавай інфармацыі абмяркоўвалася пытанне пра правільнае падключэнне хатніх электрапрыбораў, але мы ўсё адно давяраем незнаёмым людзям, якія не маюць дастатковага досведу і кваліфікацыі на правядзенне электрамантажных работ. Вядома, такі «дзядзька» зробіць працу ўдвая танней, чым спецыялізаваная электрамантажная арганізацыя, але без гарантыі на бяспечную эксплуатацыю электрапрыбораў. Вось з-за такіх «цудамайстроў» адбываюцца няшчасныя выпадкі сярод насельніцтва.

Так, у лютым 2010 года ў горадзе Мінску ад судотыку з задняй сценкай пральнай машыны, усталяванай у ванным пакоі, загінула дзяўчына 1993 года нараджэння. Пры расследаванні прычыны няшчаснага выпадку было выяўлена, што пральная машына была падключана з парушэннямі дзейсных правіл.

У лістападзе 2010 года ў н.п. Турэц-Баярскі з-за няправільнага падключэння пральнай машыны загінула жанчына 1972 года нараджэння, маці чацвярых дзяцей.

Кажуць, што нельга эканоміць на ўласным здароўі, дык чаму ж мы ўвесь час эканомім на ўласным жыцці. Таму для вытворчасці электрамантажных работ наймайце спецыялізаваныя электрамантажныя арганізацыі, якія адказваюць за якасць выкананай працы.



# Красці электраэнергію невыгодна

■ **Д.П. Курдзека,**
*інспектар Глыбоцкага аддзялення «Энергазбыту».*

**Нягледзячы на штрафы за крадзеж электраэнергіі, памеры якіх дасягаюць парой некалькіх сот тысяч, а то і мільёнаў рублёў, некаторыя грамадзяне працягваюць красці.**

Для выяўлення фактаў крадзяжу электраэнергіі ў «Энергазбыце» існуе рэйдавая брыгада, спецыялісты якой працуюць не толькі ў будні, але і ў выходныя, святочныя дні,у вячэрні час сутак. З мэтай выяўлення парушэнняў правіл карыстання электрычнай энергіяй праводзяцца начныя замеры нагрузкі, вядзецца праца па ўсталёўцы кантрольных лічыльнікаў для зверкі паказанняў са справаздачамі спажыўцоў. 2011 год у нашай краіне абвешчаны годам прадпрымальнасці. Але некаторыя нядобрасумленныя грамадзяне ўспрымаюць тэрмін «прадпрымальнасць» як нелегальны спосаб зэканоміць на аплаце за электраэнергію.Так і глыбачанін С. вырашыў, што няўлічанае электраспажыванне– гэта выгодна. Парушыўшы правілы карыстання электраэнергіяй, ён змайстраваў утоеную электраправодку на гарышчы жылога дома міма электралічыльніка, што дазволіла яму «забяспечваць» сваю хату «бясплатнай» электраэнергіяй. Але, як той казаў, бясплатны сыр бывае толькі ў пастцы. Падчас рэйдавай праверкі і быў выяўлены вышэйназваны факт. За дадзенае парушэнне гаспадару прыйдзецца заплаціць 519000 рублёў шкоды, нанесенай арганізацыі. Увогуле, эканоміў штомесячна, а заплаціў па поўнай. Шлях да «эканоміі» ў кожнага свой. Некаторыя грамадзяне парушаюць схему падключэння, ускрываюць электралічыльнікі, зрываюць пломбы і самавольна падключаюць дамы і іншыя будынкі. Усё гэта супярэчыць Правілам і караецца. Прывядзём прыклады грубых парушэнняў. Жыхар г. Глыбокае Д. зняў пломбу «Энергазбыту» з вечка лічыльніка і падключыў свой дом безулікова, за што і быў аштрафаваны на 718 120 руб. А грамадзянін Г. з в.Арцёмы і зусім зрабіў проста: накінуў правады на лінію электраперадачы і карыстаўся электрычнасцю. Вынік самавольства – акт на суму 301 360 руб. Жыхар в. Мярэцкія Ц. без дазволу падключыў свой дом і быў пакараны на 927 450 руб. Такіх прыкладаў можна прывесці мноства.

У цэлым з пачатку гэтага года работнікамі «Энергазбыту» Глыбоцкага аддзялення складзена 69 актаў парушэнняў Правіл карыстання электрычнай энергіі на агульную суму 25 186 280 рублёў. Падкрэсліваем, што ў дадзеным артыкуле паказаны толькі сумы ўрону. Акрамя таго, паводле Кодэкса РБ пра адміністрацыйныя правапарушэнні, па артыкуле 20.10 «Парушэнне Правіл карыстання электрычнай ці цеплавой энергіяй», такія дзеянні, як самавольнае падключэнне прымальнікаў электрычнай энергіі, або безуліковае спажыванне такой энергіі, або пашкоджанне разліковых прыбораў уліку ці парушэнне схем іх падключэння, як і іншыя парушэнні правіл карыстання электрычнай энергіяй прадугледжваюць накладанне штрафу ў 5-разовым памеры сумы прычыненага ўрону.

# Яўрэйская дыяспара ў Дзісне

**Заканчэнне.**
***Пачатак на стар. 4***

Дзісненскі лясгас узначаліў яўрэй Палей. Толькі яму аднаму ўдавалася закрываць нарады на драўніну і завозіць будаўнічы лес. Нават для ўзнаўлення разбітай бальніцы па вул. Пушкіна на беразе Дзвіны ў 1958 годзе былі завезеныя матэрыялы. Толькі аб'яднанне раёнаў у 1959 годзе перашкодзіла ўзнавіць прыгожае і так неабходнае гораду памяшканне.

Маруух Кункес пасля дэмабілізацыі з арміі арганізаваў кравецкую майстэрню. Праз год яна стала такой вядомай, што ў Дзісну прыязджалі начальнікі з Шаркоўшчыны, Верхнядзвінска і нават Полацка заказваць сабе касцюмы, паліто і іншае адзенне. Год праз 10-15 яна вырасла ў дастаткова буйную швейную майстэрню, дзе працавала больш за 30 чалавек. На яе базе было створана Дзісненскае КБА, якое ў сувязі з далучэннем да Мёр стала філіялам Мёрскага КБА. Кункес дамогся таго, што ў КБА была цырульня, рамонт гадзіннікаў, рамонт абутку, фотаатэлье, пральня, рамонт бытавой тэхнікі, выраб калодзежных кольцаў.

Раённы аддзел народнай адукацыі ўзначаліў Родзін, чалавек, які душой хварэў за адукацыю дзяцей і стварэнне нармальных умоў для працы настаўнікаў. Перад жнівеньскай нарадай настаўнікаў дагаворваўся з райвыканкамам аб тым, каб у кожны калгас былі пасланыя тэлефанаграмы з прапановай аб дастаўцы настаўнікаў у Дзісну на нараду. А дадаткова яшчэ сам тэлефанаваў у кожны калгас і асабіста ад сябе прасіў старшыню. Вось ён, сапраўдны клопат аб чалавеку.

А зараз некалькі слоў аб могілках. Першапачаткова яўрэі хавалі сваіх продкаў на высокім узвышшы на ўскрайку горада. Да пачатку XX ст. яно было поўнасцю запоўнена, тады яўрэі купілі ўчастак зямлі за 2 км ад горада. Прыгожае высокае месца. Могілкі былі дагледжаныя. Калі яўрэяў засталося мала, навесці патрэбны парадак ім стала не пад сілу. Да таго ж, у 70-х гадах па загадзе ўлад зямлю з гары, дзе былі першыя могілкі, вывезлі на будаўніцтва. На месцы могілак утварылася вялізная лужына. Могілкі пад Горкамі зараслі альхой, кустамі, бур'янам. Ніхто і ніколі апошнія 70 год іх не прыбіраў.

У апошні час некалькі чалавек знайшлі свой прытулак побач з магіламі тых яўрэяў, якіх расстралялі 14 чэрвеня 1942 года. Зараз у Дзісне не пражывае ні аднаго яўрэя. Толькі кожны год 14 чэрвеня прыязджаюць з усіх канцоў зямлі сваякі тых, хто знайшоў сваё апошняе прыстанішча ў Дзісненскай зямлі. Але і іх з кожным годам становіцца ўсё менш.

Дзісна страціла не толькі сваіх жыхароў-яўрэяў, але і вынікі іх працы. У КБА засталася толькі цырульня, а райпрамкамбінат у 2010 годзе закрылі цалкам, яшчэ раней ліквідавалі цагляны і гароднінны заводы. Дзісна вымірае, і няма каму за яе заступіцца.

# ТЭЛЕТЫДЗЕНЬ "Вольнага Глыбокага"

28 сакавіка – 3 красавіка 2011 г.



Вы можаце падаць сваю прыватную абвестку і па хатнім тэлефоне на нумар 166 кругласутачна. Выразна назавіце газету. У дадзеным выпадку – "Вольнае Глыбокае".

Кошт абвесткі аб'ёмам да 5 слоў – 2500 рублёў.

Кожнае далейшае дадатковае слова – 300 рублёў.

Абвестка тлустым шрыфтам да 5 слоў – 3000 рублёў. Кожнае далейшае дадатковае слова – 400 рублёў.

Між тым, парадак прыёму прыватных абвестак у месцах продажу нашай газеты – нязменны.



## ПАНЯДЗЕЛАК, 28 сакавіка



**06.00,07.00,08.00,09.00, 12.00**(с сурдопереводом), **13.00, 14.00,15.00,16.00, 17.00,18.00,19.00, 23.05** Новости.
**06.05,07.10,08.15**«Доброеутро,Беларусь!»
**07.05, 08.10** Зона Х.
**07.30, 08.25, 11.50** «Деловая жизнь».
**08.30** В мире моторов.
**09.10** Женское ток-шоу
**10.10** «Здоровье».
**10.35** «Культурные люди».
**11.05 "Затмение"**
**12.10 "Деревенская комедия"**
**14.15** Синематека.
**15.15, 19.10** Новости региона.
**15.40** «OFF STAGE LIFE»
**16.05** Nota Bene.
**16.30 "Маршрут милосердия"**
**17.25 "Затмение"**
**18.25** «Окно в Европу».
**18.50, 00.45** «Зона Х».
**19.25** «КЕНО».
**19.30** «Арена».
**19.50** «Ответный ход».
**21.00** «Панорама».
**21.45** «Командировка. Журналистское расследование».
**22.00"Обмани меня-2**
**23.15**«Проверкаслухов».
**23.45** «Ушедшие на пике славы-2».
**00.50** День спорта.
**01.00** Хоккей для всех.



**06.00, 09.00** Наши новости.
**06.05** «Наше утро».
**09.05** Контуры.
**10.10 «Моя жена меня приворожила».** Многосерийн.фильм.
**11.00** Наши новости.
**11.05** Новости спорта.
**11.10** Тележурнал «Союз».
**11.50** «Монте-Кассино. Долгий путь домой».
**12.20** «Детективы».
**13.00** Наши новости.
**13.05** Новости спорта.
**13.10** «Контрольная закупка».
**13.45** «Модный приговор».
**14.50**«Понять.Простить».
**15.25** «Хочу знать»
**16.00** Наши новости
**16.10** Новости спорта.
**16.15 «Обручальное кольцо».**
**17.05 «Слово женщине».**
**18.00** Наши новости.
**18.15** Новости спорта.
**18.20** «Обратный отсчет». «Испанский дебют».
**18.55** «Пусть говорят»
**20.00** Время.
**20.30** Наши новости.
**21.00**Новости спорта.
**21.05**«Открытый формат».
**22.10** «След».
**23.00** Наши новости



**23.15** Новости спорта.
**23.20** «Свидетели».
**00.20«Иван Подушкин. Джентльмен сыска».**
**01.10-01.30** Ночные новости.



**06.35 "Универ"**
**07.00** ЛАДное утро.
**08.00** Телебарометр.
**08.05"Чисто английские убийства"**
**09.00 "Ты моя жизнь"**
**10.00** Фильм-фэнтези **«ЗагадкаСфинкса»**
**11.40** Пра мастацтва.
**12.10** Школа ремонта.
**13.05** Час суда. Дела семейные.
**14.05 "Сила притяжения"**
**15.05** Внеклассный час.
**15.20** Новости погоды.
**15.50 "Налетчики"**
**16.45"Чисто английские убийства"**
**17.50 "Ты моя жизнь"**
**18.55** Хоккей. Открытый чемпионатБеларуси. Финал. Матч 4-й. Прямая трансляция. В перерыве: Калыханка.
**21.15** Телебарометр.
**21.20** Белорусское времечко.
**22.30** «Альбарутения». Подкидной король.
**23.05 "Универ"**
**23.40** Овертайм.
**00.10 "Налетчики"**



**06.00** «24 часа».
**06.10** «Минщина».
**06.20** «Утро. «.
**07.30** «24 часа».
**07.40** «СТВ-спорт».
**07.45** «Утро. «.
**08.30** «Неделя».
**09.35**«Большойзавтрак».
**10.05** «Пять историй».
**10.30** «24 часа».
**10.40**«Держи меня крепче».
**11.40** «Званый ужин».
**12.35** «Фантастика под грифом«Секретно»: «Карма. Расплата за грехи».
**13.30** «24 часа».
**13.50** «Звездный ринг».
**15.00**КонцертМ.Задорнова.
**16.00** «КультУРА!».
**16.30** «24 часа».
**16.50** «Репортерские истории».
**17.10** «Наше дело».
**17.20** «Минщина».
**17.30** «Званый ужин».
**18.30 "Огонь любви"**.
**19.30** «24 часа».
**20.00** «Столичные подробности».
**20.10** «СТВ-спорт».
**20.15** «Добрый вечер, малыш».
**20.35 "ФОБОС"**
**22.30** «24 часа».
**22.55** «СТВ-спорт».
**23.00** «Столичный футбол».
**23.30 «ИГРА СЛОВ».**

БЕЛСАТ tv

**7:00**Тыдзеньу«Аб'ектыве»
**7:30** "Удзельнікі турпаездкі»
**9:25** «Савецкая гісторыя»
**10:50** Прэс-экспрэс
**11:05** ПраСвет
**11:30** Эксперт
**11:50** Гісторыя пад знакам Пагоні
**12:00** Аб'ектыў
**12:05 "Удзельнікі турпаездкі»**, камедыя
**14:00** «Савецкая гісторыя»
**15:25** Прэс-экспрэс
**15:40** ПраСвет
**16:05** Эксперт
**16:30** Басаног па свеце
**17:00** Аб'ектыў
**17:05"Піпі Доўгаяпанчоха»**:10 с
**17:30 "Час гонару»**, серыял: 22 серыя
**18:20** Хто ёсць кім?: Барыс Кіт
**18:40** Прэс-экспрэс
**18:55** «Слуцкі збройны чын», дак. фільм, 2008 г., Беларусь
**19:30** Аб'ектыў
**19:35** Гарачы каментар
**19:45** Калыханка для самых маленькіх
**19:50** Еўропа сёння
**20:20** «Новы час»
**21:00** Аб'ектыў
**21:25** Прыватная калекцыя
**21:55 "Удзельнікі турпаездкі»**, камедыя
**23:50** Аб'ектыў
**0:10** Гарачы каментар

■ **Юлія Шарабайка**
*г. Глыбокае*

# Àäïà÷û íàê ñåëüñêàé ìîëàäç³

**Усё задаюцца пытаннем: як зрабіць так, каб моладзь ехала ў аграгарадок не адпрацоўваць, а працаваць, каб маладыя людзі затрымліваліся там даўжэй, чым на 2-3 гады. Цяпер востра стаіць праблема адраджэння вёскі, стварэння аграгарадкоў, павелічэння колькасці вясковых жыхароў. Само сабой паўстае пытанне: чым зацікавіць моладзь, каб яна захацела застацца жыць у вёсцы. Мне здаецца, сама моладзь, павінна распавесці, якой яна жадае бачыць сучасную вёску і што трэба зрабіць, каб прыцягнуць туды моладзь.**

Мне здаецца, першым фактарам, які ўплывае на колькасць моладзі на сяле, з'яўляецца заработная плата. Маладым спецыялістам у сферы сельскай гаспадаркі ў першую чаргу варта падняць зарплату, каб у моладзі было жаданне працягваць працаваць і не мяняць месца працы. Таксама павінна быць усталявана сістэма выплаты дадатковых прэмій. Работнікі павінны ведаць, што іх запал будзе ацэнены.

Другім фактарам, які ўплывае на колькасць моладзі на сяле з'яўляецца добра арганізаваны вольны час. Мне здаецца, што трэба ва ўніверсітэтах і інстытутах больш старанна рыхтаваць працаўнікоў сферы культуры і размяркоўваць іх па сельскіх клубах, каб яны ўмела арганізоўвалі вольны час моладзі. Паміж клубамі аграгарадкоў можна нават ладзіць спаборніцтвы, сумесныя дыскатэкі і г. д. У выніку і моладзь цікава праводзіць час, і працаўнікі культуры за дасягненне атрымліваюць прэмію. Думаю, з аграгарадкоў з наладжаным культурным жыццём, добра арганізаваным вольным часам моладзь ужо не будзе з'язджаць, а хтосьці, можа, і наадварот, захоча прыехаць з горада, бо цяпер пра вёску кажуць: "Тут няма куды схадзіць, няма чым заняцца..." Магчыма, пазней усё зменіцца: будзе і клуб-дыскатэка, і кафэшка, і альтанка ля возера, і шмат іншага. Галоўнае, гэта ўсё разумна арганізаваць і, вядома, рэканструяваць ці пабудаваць нанова...

Лепш за ўсё пра тое, якой павінна быць сучасная вёска (аграгарадок), можа распавесці моладзь. Таму вырашыла задаць хлопцам і дзяўчатам некалькі пытанняў. Мне цікава, якой сучасная моладзь бачыць сваю вёску (аграгарадок), як хлопцы і дзяўчаты наогул ставяцца да праблемы адраджэння вёскі. Усе адказы шмат у чым падобныя. Некаторыя з іх я падаю чытачу. А далей– судзіце самі...

**Пытанні:**

***1. Калі вы скончыце вучыцца ці адпрацуеце, вы застанецеся ў вёсцы (аграгарадку) ці паспрабуеце з'ехаць у горад? Чаму?***

***2. Як вы лічыце, што трэба зрабіць, каб моладзь захацела застацца ў вёсцы (аграгарадку).***



**Валькевіч Аляксандр,** *20 гадоў, Полацкі р-н в. Варонічы*

1. Калі я скончыў вучыцца, то вярнуўся ў сваю вёску, таму што ў горадзе на той перыяд не знайшоў добрай працы па маёй спецыяльнасці. Я ўжо адпрацаваў год і вырашыў працягваць працу далей. У мяне ў вёсцы свая хата, добрая заработная плата і мне не мае сэнсу шукаць чагосьці іншага.

2. Вядома, вельмі хацелася б, каб у вёсках моладзі было больш, але для гэтага трэба прыкладаць намаганні як сельсаветам, так і самой моладзі. Пэўных прапаноў, што трэба рабіць для таго, каб моладзь прыязджала ў вёску і заставалася там, у мяне няма. Я лічу, што гэта павінна быць неяк звязана з духоўным жыццём вёскі і матэрыяльным забеспячэннем.



**Фаміноў Андрэй,** *18 гадоў, Талачынскі р-н в. Зялёная*

1. Цяпер я вучуся па спецыяльнасці "Вытворчасць і эксплуатацыя прыбораў і апаратаў". Калі скончу вучыцца, думаю застацца ў горадзе, бо тут я магу знайсці працу па сваёй прафесіі, можна ўладкаваць сваё жыццё і г.д.

2. Уся моладзь імкнецца ў горад, а не застаецца ў вёсках, таму што яны не знаходзяць там нічога цікавага. Трэба ім даць прэстыжную працу, добрую зарплату, жыллё, добра развіць інфраструктуру аграгарадка (вёскі), каб былі добрыя клубы і крамы, вось тады моладзь будзе імкнуцца застацца тут, ну і гарадскія могуць зацікавіцца таксама!



**Сабалеўская Вікторыя,** *18 гадоў, Віцебскі р-н г. п. Янавічы*

1. Калі скончу вучыцца, паспрабую з'ехаць у горад, таму што у вёсцы мала моладзі. Другая прычына, чаму я не жадаю заставацца ў вёсцы – гэта адсутнасць там забаўляльных цэнтраў і дрэнная арганізацыя вольнага часу моладзі. Для дзяцей там, магчыма, у клубах цікава арганізоўваюць праграмы, але не для моладзі.

2. Для таго, каб моладзь заставалася ў вёсцы, мне здаецца, не трэба зацікавіць. У кожнага, вядома, інтарэсы розныя. Мне здаецца, што для прыцягнення моладзі трэба падняць зарплаты, палепшыць жыллёвыя ўмовы, пабудаваць забаўляльныя цэнтры.



**Панізнік Кацярына,** *20 гадоў, Верхнядзвінскі р-н в. Цінкаўцы*

1. Пасля заканчэння навучання я планую з'ехаць у горад. Я не застануся ў сваёй вёсцы, бо там няма перспектывы для кар'еры, няма дзе працаваць. У горадзе лепшыя умовы для пражывання і больш выбар працы.

2. Моладзі патрэбны добрыя ўмовы жыцця, добрая заработная плата, праца па спецыяльнасці і магчымасць адпачыць пасля працы. Калі ў вёсках усё гэта будзе на высокім узроўні, моладзь паступова пацягнецца. У вёсках трэба паляпшаць інфраструктуру, паляпшаць умовы працы, змяняць дызайн будынкаў, правільна арганізоўваць мерапрыемствы, г.зн. падбіраць такіх людзей, якія б умелі працаваць з калектывам, зацікавіць людзей.



**Пасевіч Алена,** *18 гадоў, Браслаўскі р-н, г. п. Відзы*

1. Калі я скончу вучыцца, паспрабую адпрацаваць, а потым у мае планы ўваходзіць пабудаваць сваё жыццё цікавей, чым яно цяпер, у мой студэнцкі час. Я нарадзілася ў г. п. Відзы, вучылася і праводзіла свой вольны час весела. У нас у аграгарадку жыве вялікая колькасць людзей. Ёсць наш любімы клуб, у якім я займалася спевамі пасля заняткаў у школе. Сказаць, што ў нас у аграгарадку вельмі весела, гэтага я не скажу, але люблю яго і не ведаю, ці змагу наогул адтуль куды-небудзь з'ехаць. На дадзеныя час я вучуся ў прыгожым горадзе Паставы. Мне тут падабаецца, але ўсё-ткі мне хочацца ў роднае мястэчка, да сваіх блізкіх. Усё вышэйсказанае зводзіцца да таго, што я яшчэ пакуль не ведаю, што будзе далей: застануся я ці не ў сваіх Відзах. Час пакажа.

2. На мой погляд, для таго, каб моладзь захацела застацца ў вёсцы, у першую чаргу трэба павялічыць зарплату, колькасць насельніцтва, пабудаваць якія-небудзь установы культуры, каб моладзь магла забаўляцца ў вольны час, арганізаваць такія гурткі, як вакальныя спевы, харэаграфія і ўсё, што звязана з культурай. Я лічу, калі ўсё гэта ці хоць частка будзе арганізавана ў нашых вёсках (аграгарадках), то моладзь не захоча з'язджаць у горад і пасля заканчэння вучобы будзе вяртацца дадому. Вёска – гэта здароўе, месца, дзе можна адпачыць, набрацца сіл і адцягнуцца ад усіх клопатаў і праблем, ад хуткага рытму гарадскога жыцця. Моладзь, сумяшчаючы вясковую цішыню і іншыя заняткі, будзе здаровай.

**Шнітко Аляксандр,** *18 гадоў, Докшыцкі р-н в. Тумілавічы*

1. Калі я скончу вучыцца, я застануся жыць і працаваць у роднай вёсцы, таму што я там нарадзіўся, мне падабаецца прырода родных месцаў. У вёсцы ў мяне ёсць свая хата і ўчастак, пасля заканчэння вучобы дадуць працоўнае месца.

2. Мне здаецца, што маладых дзяўчат і хлопцаў, якія з дзяцінства жывуць у вялікіх гарадах, варта хоць на адно лета прывезці ў вёску, каб яны адчулі свежае вясковае паветра, пах лясоў, паглядзелі на абшары палёў і чыстыя азёры. У сучаснай моладзі склалася вызначанае паняцце пра вёску, а я з ім не згодзен. Хацелася б сказаць, што вёска - гэта праца і адпачынак на свежым паветры. Жыць у вёсцы карысна для здароўя.



**Аксёнаў Уладзімір,** *17 гадоў, Мінская вобл. Мядзельскі р-н в. Чэраўкі*

1. Калі я скончу вучыцца, паспрабую з'ехаць бліжэй да Мінска, таму што гэта сталіца Беларусі, горад надзей і магчымасцяў. У Мінску, мне здаецца, прасцей уладкавацца на працу. У нас, у Нарачы, на мой погляд, недастаткова развіта структура адпачынку ў здраўніцах, няма масавых забаўляльных цэнтраў. Таксама мала працоўных месцаў, нізкія зарплаты, таму людзі імкнуцца ў вялікі горад, туды, дзе гэта ўсё ёсць.

2. Вёска, у якой я жыву, курортная зона, таму тут павінны быць інфацэнтры, розныя забаўляльныя ўстановы. Мне здаецца, што ў вёсках трэба пабудаваць фабрыкі ці заводы, каб даць людзям працоўныя месцы. Таксама можна адкрыць ПТВ ці ССУЗ, тады ў вёсках з'явяцца студэнты, адпаведна і моладзі стане больш і, магчыма, людзі будуць цягнуцца ў вёскі, а не прагнуць з'ехаць з іх.

**Гарбачова Вольга,** *20 гадоў, Сенненскі р-н в. Багданава*

1. Калі б мне прыйшлося выбіраць, дзе застацца жыць і працаваць, паміж вёскай і горадам, я б, вядома, абрала горад, таму што там больш магчымасцяў для самарэалізацыі. Ну, а калі казаць пра аграгарадок, то там можна заставацца жыць і працаваць, калі ў цябе будуць добрыя жыллёвыя ўмовы, гаспадарка і высокааплатная пасада.

2. Я думаю, застануцца ў вёсцы тыя маладыя людзі, якім падабаецца сельскае жыццё, свежае паветра, працаваць па спецыяльнасці, якая звязана з сельскай гаспадаркай ці проста ў моладзі не будзе іншага выйсця...

**Зміцер,** *25 гадоў, Дубровенскі р-н*

1. Пасля заканчэння ВНУ мяне накіравалі па размеркаванні ў вёску. Па маёй спецыяльнасці там працаваць выгодней, чым у горадзе, таму я застаўся. Магчыма, з часам захочацца і ў горад. Хоць, як мне здаецца, вясковы жыхар амаль заўсёды вяртаецца ў вёску. Я думаю, уплывае становішча, у якім выхоўваўся чалавек. Людзі з дзяцінства прывыкаюць да чыстага паветра і вады, а пераязджаючы ў горад, з гэтым даводзіцца развітвацца.

2. Я лічу, што проста вясковай моладзі варта нагадаць, дзе яе маленькая радзіма, сапраўдны дом, у якім нарадзіліся і выраслі, бо без іх хаты апусцеюць.

**Артур,** *22 гады, Аршанскі р-н*

1. Я хоць і нарадзіўся ў вёсцы, яшчэ ў дзяцінстве паставіў сабе мэту з'ехаць у горад. Пасля заканчэння школы паступіў на такую спецыяльнасць, каб размеркавалі ў горад. Мне здаецца, у горадзе больш перспектыў, чым у вёсцы. Мяне сам па сабе прыцягвае горад сваімі памерамі і вялікай колькасцю насельніцтва.

2. Горад і вёска – супрацьлегласці. Хтосьці любіць горад, а хтосьці - вёску. Я думаю, кожны сам выбірае, дзе яму жыць і працаваць, зыходзячы з таго, што ён адчувае да мясцовасці. Угаварыць нельга, можна толькі параіць. Ну, а параду, я думаю, павінен даць той, хто любіць вёску ўсім сэрцам.

## ІМЯНІНЫ

**24 сакавіка**
**Пр.:** Сафрона, Яфіма
**К.:** Катарыны, Габрые-ля, Марка, Шымана.

**25 сакавіка**
**Пр.:** Епіфана, Івана, Рыгора, Сямёна, Уладзіміра, Феафана.
**К.:** ЗВЕСТАВАННЕ ПАНА, Марыі, Пракопа.

**26 сакавіка**
**Пр.:** Хрысціны, Аляксандра, Нікіфара.
**К.:** Ларысы, Маргарыты, Тодара, Фелікса, Цімафея, Эмануіла.

**27 сакавіка**
**Пр.:** Венядзікта, Расціслава.
**К.:** Лідзіі, Бенядыкта, Мацея, Эрнеста, Яна.

**28 сакавіка**
**Пр.:** Нікандра, Агапія, Аляксея, Аляксандра, Дзмітрыя, Міхаіла.
**К.:** Анелі, Яны, Аляксандра, Антона, Сікста.

**29 сакавіка**
**Пр.:** Аляксандра, Трафіма, Юльяна.
**К.:** Амаліі, Бартольда, Віктара, Кірылы, Яўстаха.

**30 сакавіка**
**Пр.:** Аляксандра, Аляксея, Віктара, Макара.
**К.:** Амеліі, Ірыны, Леанарда, Яна.

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Полупроводниковый диод | Приток реки Сомма | Гора на острове Калимантан | | Порода собак | Город в России | Передача мяча в футболе | Селение на почтовом тракте | Марка сигарет | Образ действия |
| | | | | | | | Жанр персидской поэзии | | |
| Минерал группы псиломелана | | | | Город в Эстонии | | | | | |
| | | | | Порт на реке Нил | | | | | |
| Горная цепь | Проверка в аэропорту | Донный осадок | | Вид городского транспорта | | Земельная мера | | Есть у рояля | |
| Режим питания | | | | | | Основатель Рима | | | |
| | | | | | Горный массив в Болгарии | | | | |
| Место в вагоне | | Ледники на Кавказе | Траурная ткань | | Малая планета | | Слуга Хлестакова | | Обычное право у мусульман |
| Отечественная балерина | | | | | | | | | |
| Персонаж из "Гамлета" | | | | | | Трагедия Пьера Корнеля | | | |
| Богиня в мифах тукано | | | | Объявление о спектакле | | | | | |
| Приспособление для усиления звука | | | | | | Сорт пастилы | | | |

**Ответы на сканворд №11**
**По горизонтали:** Супесь. Рами. Манилов. Доха. Бешмет. Надир. Вира. Иже. Харч. Цикл. Клип. Сдача. Ярмо. **По вертикали:** Бредень. Сима. Пение. Салями. Квота. Ходжа. Бричка. Швеция. Ерик. Ход. Ипр. Лао.

## ГАРАСКОП
### на новы тыдзень

**АВЕН.** Настрой паляпшаецца, з'яўляюцца новыя планы, хочацца абнавіць прастору вакол сябе. У вас досыць сіл і энергіі, каб справіцца. Калі несвоечасова падкрадзецца самота, ганіце яе прэч. Каханне - тая выратавальная гавань, якая сагрэе цяплом, не дасць вам "расклеіцца". Калі каханне ёсць - выдатна, калі яго няма - што можа быць лепш, чым чаканне будучых прыгод? Цяпер шматлікія Авены занятыя пошукам сваёй палоўкі, чаму б вам не далучыцца да іх дружнай кампаніі? Прыйшоў ваш час - час рэалізацыі таемных жаданняў.

**ЦЯЛЕЦ.** Уплыў мінулых выхадных у пачатку тыдня будзе захоўвацца. Характэрна нестабільнасць у эмоцыях, раптоўныя парывы, нелагічныя дзеянні. Да сярэдзіны тыдня падтрымка добрых людзей дазволіць вам справіцца з любымі крытычнымі сітуацыямі. Сіла волі дапаможа ў складаных сітуацыях. Варта ўдзяліць увагу грашовым пытанням.

**БЛІЗНЯТЫ.** Новы тыдзень падкажа Блізнятам, як вызваліцца ад таго, што адпрацавала рэсурс і састарэла маральна. У жыцці заўсёды ёсць месца зменам. Лёс прынясе шмат неспадзевак: вас чакае трыумфальны марш у шматлікіх сферах, бярыцеся з максімальным размахам за ўсё, пакладзіце пачатак справам. Не дзяліцеся сакрэтамі ні з кім, у іншым выпадку таемнае стане відавочным. Майце справу толькі з прыстойнымі людзьмі, якім давяраеце.

**РАК.** Час трыумфальных перамог працягваецца. Аднак усё яшчэ ёсць планы, якія патрабуюць значных выдаткаў– як грашовых, так і маральных. Дзейнічайце, тут вас таксама чакае поспех. Не забывайце прыслухоўвацца да знакаў лёсу. Цяпер вы віртуозна валодаеце інтуіцыяй, якая, нібы путэводная зорка, вядзе вас па жыцці. Не забывайцеся дзяліцца добрым настроем з блізкімі і сябрамі, яны шчыра парадуюцца за вас.

**ЛЕЎ.** Гэты тыдзень раскрые вас людзям з нечаканага боку: яны зразумеюць, што вы - сапраўдная скарбонка з каштоўнасцямі. Вашы таленты буйна заквітнеюць - грэх іх не прадэманстраваць. Асабліва будзе атрымоўвацца ўсё, што звязана з творчасцю. Інтэр'ер вашай кватэры патрабуе абнаўлення - прысвяціце гэтаму занятку выхадныя. Таксама на працягу тыдня вас чакае шмат прыемных сустрэч, добрых слоў і шмат-шмат кахання, вы гэта заслужылі.

**ПАННА.** На новым тыдні Паннам можа здацца, што ў галаве адбываецца раздваенне. Не палохайцеся, нічога агульнага з хваробай тут няма. Проста прыйшла вясна! З аднаго боку, вам хочацца змяніць статус і стаць іншым чалавекам. Але, з іншага боку, вам надзвычай падабаюцца некаторыя рысы сваёй асобы. Аптымальным варыянтам будзе, калі ваш каханы зразумее і прыме абсалютна ўсе грані вашага характару. Аднак гэта не зусім рэальна на дадзеным этапе вашых адносін. Не губляйце надзеі, бо магчыма ўсё!

**ШАЛІ.** На новым тыдні варта аддаць кіраванне кампаньёнам, бо самі вы так і не зможаце прыняць адказнага рашэння. Больш давярайце людзям, не хвалюйцеся, што хтосьці "патопіць" справу ўсяго вашага жыцця. Калегаў цяпер лепш не крытыкаваць, яны і так шмат для вас робяць. Сітуацыя на любоўным фронце запатрабуе да сябе ўвагі. Каханы чалавек жадае зносін з вамі? Не адмаўляйце яму! З прыходам вясны актывізуюцца вашы суперніцы, таму паклапаціцеся пра знogсшыбальны знешні выгляд, каб ужо калі разбіць напавал, то надоўга.

**СКАРПІЁН.** Прыход вясны спрыяльна адаб'ецца на вашым жаданні займацца ўласнай знешнасцю. У канцы тыдня спяшайцеся рабіць пакупкі, важныя сустрэчы таксама пажадана перанесці на першую палову тыдня. Выхадныя могуць прайсці не так, як вы планавалі. Лепш правесці гэтыя дні ўдалечыні ад хаты.

**СТРАЛЕЦ.** Новы тыдзень больш арыентаваны на каханне, чым на кар'еру. Цяпер сямейнае жыццё выслана ружамі шчасця, таму моцна трымайцеся адзін аднаго і атрымлівайце асалоду ад узаемнага кахання. Ад выпадковых заступнікаў, якія раптам з'явіліся, карысці не будзе. Лепш удасканальвайце дзелавое майстэрства: ваша месца там, дзе паспяхова рэалізуецца прафесійнае пакліканне.

**КАЗЯРОГ.** На гэтым тыдні ваша чароўнасць значна ўзмоцніцца з-за пачуццёвасці і гарачыні, якія будуць прыцягваць акружаючых вас людзей. Ідэальнай лініяй паводзін будзе не што іншае, як шчырасць. Прычым шчырасць ва ўсім, пачынаючы з гутаркі з каханым чалавекам і заканчваючы размовамі па тэлефоне са старымі знаёмымі і далёкімі сваякамі. Вы досыць доўга сябе стрымлівалі, спрабуючы хаваць эмоцыі. Зараз настаў час гуляць у адкрытую.

**ВАДАЛЕЙ.** На гэтым тыдні праходзіць пікавы перыяд у вашых адносінах з партнёрам. Бура сціхае. Магчыма, вы была відавочнай, а магчыма, і ўтоенай у сярэдзіне вас. Праўда, паміж вамі ўсё яшчэ можа застацца некалькі нявысветленых пытанняў. Няхай гэта не трывожыць. Будзьце верныя сабе і сваім пачуццям, і тады вы апынецеся ў выйгрышы.

**РЫБЫ.** На гэтым тыдні зоркі настойліва раяць менш размаўляць, больш слухаць. У струмені інфармацыі можна вылавіць нешта вельмі важнае. Адказныя справы і сустрэчы лепш прызначыць на першую палову тыдня. Другая палова рыхтуе для вас нейкую рамантычную прыгоду. Тэндэнцыя трэцяй дэкады месяца - ставіць асабістыя справы вышэй за грамадскія. Канец тыдня ў плане спатканняў аптымальны. Выкарыстоўвайце сітуацыю сабе на карысць.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродка масавай інфармацыі № 1210, выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь 8 лютага 2010 г.

"Вольнае Глыбокае"
Заснавальнік: Прыватнае інфармацыйна-рэкламнае ўнітарнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс»

Газета выходзіць адзін раз на тыдзень. Аб`ём – 4 друкаваныя аркушы. Падпісана ў друк 22 03. 2011года ў 21.05

«Вольнае Глыбокае» надрукавана на газетнай паперы РВУП **«Завод газетнай паперы» (г. Шклоў).**

Наклад 2000 паасобнікаў

**Рэдактар :**
**Уладзімір Іванавіч Скрабатун.**
**тэлефон / факс**: (02156) 2 46 14;
**E-mail**: vglybokaye@tut.by
Адрас для допісаў:
**211800 г. Глыбокае п/с 3**

Замова № 1107

Меркаванні выдаўца і аўтараў могуць не супадаць. Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць і падбор матэрыялаў. Спасылкі на "Вольнае Глыбокае" абавязковыя.

Газета набрана і звярстана на настольна-выдавецкім комплексе рэдакцыі газеты «Вольнае Глыбокае». Надрукавана ў РУП «Перамога», Міністэрства інфармацыі РБ, 222310, г. Маладзечна, вул. Таўлая, 11. Афсетны друк.

Юрыдычны адрас: вул. Шпітальная, 44, ком.1, г. Глыбокае.

ISSN 2077-8023
9 772077 802009